РАКУРС

# Хто лічыць Еўфрасінню Полацкую партызанкай?



Сяргей Тарасаў у Ахрыдзе каля Сафійскага сабора.

*Як зацікавіць беларусаў сваёй гісторыяй?*
*Чаму ў Мінску дагэтуль існуюць вуліцы, названыя ў гонар тых, хто лічыў, што беларусаў як нацыі не існуе?*
*Што рабіў Ленін у Мінску?*
*Пра гэта і многае другое "Народнай Волі" распавялі стваральнікі грамадскай арганізацыі "Гільдыя беларускіх гісторыкаў".*

## Шакіруючыя веды

*Вядомы беларускі археолаг, кандыдат гістарычных навук* ***Сяргей Тарасаў*** *не так даўно прымаў у інстытуце іспыт, падчас якога адной студэнтцы трапілася пытанне пра Вялікае Княства Літоўскае. Студэнтка не магла вымавіць ні слова, і выкладчык, каб не ставіць нездавальняючую адзнаку, спытаў: "А з якімі краінамі межавала ВКЛ?". У адказ – цішыня.*

"Я тады запытаўся: назавіце краіны-суседкі Беларусі". "Расія", – вымавіла дзяўчына. І раптам дадала: "Турцыя!". Я ўдакладніў: чаму Турцыя? Яна адказала: "А я там была". Атрымалася, што яна села ў Мінску ў самалёт і прызямлілася ў Турцыі. Вось вам і мяжа!

Гэта не анекдот, а рэальная гісторыя з маёй практыкі, – *акцэнтуе ўвагу Тарасаў.*

*Ёсць і другія красамоўныя прыклады "ведаў". Так, беларускіх гісторыкаў* ***Ніну Стужынскую і Андрэя Кіштымава*** *неяк запрасілі ў летнік для моладзі – зрабіць семінар па гісторыі.*

"Андрэй Кіштымаў вырашыў пратэсціраваць прысутных на ўзровень ведаў і спытаў, каго з герояў сусветнай гісторыі яны ведаюць і якіх нацыянальных герояў Беларусі могуць назваць, – *распавядае* ***Ніна Стужынская***. – Сярод сусветных герояў былі Сталін і Гітлер, прычым вельмі часта казалі, што апошні быў вельмі добрым менеджарам. Нас гэта ледзь з ног не збіла! А сярод нацыянальных герояў фігураваў нават парубчык Ржэўскі. Мы былі ў роспачы. Гэта ўзровень гістарычных ведаў моладзі, якая вучылася на першых курсах універсітэтаў і інстытутаў".

"Адна з задач ствараемай Гільдыі беларускіх гісторыкаў – якраз адукацыйная, – *гаворыць Ніна Стужынская*. – Беларуская гісторыя цікавейшая за самы модны серыял. Праблема ў тым, што нашы падручнікі, на жаль, пустыя на падзеі, пустыя на імёны, нецікава напісаны. Таму на экзаменах па гісторыі некаторыя на простае пытанне "Хто такая Еўфрасіння Полацкая?" упэўнена адказваюць: "Партызанка!".

## Дзе шукаць сапраўдны крыж

*Дарэчы,* ***Сяргей Тарасаў*** *мае сваю версію наконт таго, дзе трэба шукаць сапраўдны крыж* ***Еўфрасінні Полацкай***. *Ён пераканаць, што беларускія гісторыкі могуць раскрыць не адну таямніцу мінулага.*

– Справа ў тым, што сёння многія гісторыкі аказаліся за бортам нейкіх дзяржаўных праграм і праектаў, некаторыя ўвогуле засталіся без працы, – *распавядае Тарасаў пра сваіх калег і задачы, якія плануе вырашаць Гільдыя беларускіх гісторыкаў.* – Але гісторыкі – як мастакі, яны не могуць не працаваць, і так ці інакш робяць сваю справу. Калі мяне папрасілі з Акадэміі навук, я заняўся выкладчыцкай дзейнасцю. Але пры гэтым не закінуў сваю дзялянку, над якой заўжды працаваў – гэта старажытная гісторыя, гісторыя Полацка і Полацкай зямлі, культура Беларусі часоў сярэднявечча. У мяне многа напрацовак, я прымаю ўдзел у міжнародных канферэнцыях. Сёлета ў студзені быў у Македоніі, каб на свае вочы пабачыць Ахрыцкую Сафію, якая, на маю думку, была прататыпам Полацкага Сафійскага сабора. Такім чынам гісторыкі ўсё адно займаюцца сваёй справай. І трэба дапамагчы ім данесці вынікі сваіх даследаванняў да шырокай публікі.

Так, ёсць такая тэндэнцыя, што навуковай літаратурай апошнім часам цікавяцца ўсе менеей і менеей. Тыражы кніг становяцца мізэрнымі – не болей за 100–200 экзэмпляраў, а то і менш. Ёсць медыйная прастора, дзе можна выкладаць свае напрацоўкі, але любому гісторыку ці даследчыку важна патрымаць у руках кніжачку, паставіць яе на палічку ці занесці ў бібліятэку, падпісаць каму-небудзь у падарунак.

Яшчэ адзін важны аспект: многія фрагменты і храналагічныя этапы нашай гісторыі сёння проста выпадаюць з афіцыйнай гісторыяграфіі. Некаторыя ўвогуле думаюць, што гісторыя Беларусі пачалася калі не з 1994-га, то з 1991 года. Чаму я так кажу? Таму што стварэецца музей беларускай дзяржаўнасці, і гэтая дзяржаўнасць там пачынаецца менавіта з гэтых часоў. Я не кажу пра тое, што не трэба вывучаць гісторыю сучаснасці, яна таксама цікавая, але не варта забываць, што было раней.

Чамусьці мала вывучаецца ў нас гісторыя Вялікага Княства Літоўскага, хаця нашыя суседзі ганарацца ёй. Паглядзіце на Літву: дзяржаўнае свята – каранацыя Міндоўга. А дзе каранаваўся Міндоўг? Большасць сходзіцца ў думцы, што ў Навагрудку. У нас! І гэта наш першы кароль. Пачынаючы з Міндоўга, мы фактычна былі каралеўствам. Гэта зусім іншая беларуская гісторыя! А многія дагэтуль думаюць, што беларуская гісторыя – гэта вайна і лапці. Між іншым, беларусы ніколі ў лапцях не хадзілі. За ўсю гісторыю беларускай археалогіі (а мы капалі ва ўсіх гарадах Беларусі) было знойдзена не больш пяці лапцяў. Гэта быў не наш абутак! Беларусы хадзілі альбо ў скуры альбо на вёсцы басанож. Лапці апраналі толькі на балота ці на пакос...

Я ўжо не кажу пра старадаўнюю гісторыю. Вось вы ніколі не задумваліся, чаму крыж Еўфрасінні Полацкай так доўга шукалі, нават узбуджалі крымінальную справу, а потым усё заціхла? Справа ў тым, што крыж Еўфрасінні захаваўся. І ў мяне ёсць апасрэдаваныя доказы, дзе яго шукаць: у адным з расійскіх храмаў. І я ведаю людзей, якія яго бачылі...

– Мы маем намер усур'ёз заняцца гістарычнымі расследаваннямі і разбурэннем міфаў, якія складваліся дзесяцігоддзямі, – *дадае Ніна Стужынская*. – Бо мы са школы верым у адных герояў той жа вайны, а насамрэч яны ніякія не героі. Ці наадварот: запісалі чалавека у ворагі, а ён быў сапраўдным патрыётам. Ёсць архіўныя дакументы, якія пра гэта выразна сведчаць. І мы будзем распавядаць пра такія гісторыі шырокай публіцы.

## Натхнёныя сваім

*Кандыдат гістарычных навук* ***Ніна Стужынская*** *заўважае, што апошнім часам беларусы зацікавіліся сваёй асабістай гісторыяй: у архівах яны вывучаюць гісторыю сям'і і маёнткаў.*

– Мяне вельмі ўсцешвае той факт, што людзі хацелі б знайсці сваю малую радзіму ў кантэксце агульнай еўрапейскай гісторыі, – *гаворыць Ніна Іванаўна.* – І, канешне, наша Гільдыя гісторыкаў будзе гэтаму спрыяць. Апошнім часам людзі моцна зацікавіліся гісторыяй сям'і. Я працую ў архівах і бачу, колькі людзей штодня капаюць сваю генеалогію. А гэта вельмі цяжка. Многія думаюць, што раскрыюць архіўныя дакументы і адразу ўсё знойдуць пра сваю сям'ю. А аказваецца, што ўзгадку пра свайго прадзеда можна знайсці толькі ў спісах нейкага сельсавета. Карацей, гэта вельмі карпатлівая праца. Але цешыць, што людзі так натхнёна займаюцца сваім паходжаннем. Гэта таксама рэакцыя на нецікавую гісторыю: людзі шукаюць блізкую і зразумелую ім гісторыю.

*Сяргей Тарасаў лічыць, што вывучэнне сваёй гісторыі павінна стаць нацыянальным брэндам.*

– Я хоць і займаюся старажытнай гісторыяй, ніколі не змірыся з тым, што ў Мінску дый у іншых гарадах краіны ёсць вуліцы Мяснікова, Кнорына і іншых, якія казалі, што беларусаў як нацыі не існуе і што такой дзяржаўнасці быць не павінна, – *акрэсліваe сваю пазіцыю Сяргей Васільевіч.* – Я не разумею, чаму ў нас дагэтуль існуюць вуліца і плошча Леніна. Ну, можа быць, адзін раз Ленін, калі ехаў у Цюрых праз Мінск, на вакзале бакал тут і выпіў, але больш ніякіх адносін ён да нас не мае.

Мне няма аб чым гаварыць з тымі гісторыкамі, якія лічаць, што Полацкая зямля была ў складзе *"Древнерусского государства"*, таму што такой назвы ніколі не было – яна была прыдумана так званымі буржуазнымі дарэвалюцыйнымі гісторыкамі.

Не ведаю, аб чым гаварыць з тымі гісторыкамі, якія вывучаюць партызанскі рух і забываюць казаць аб супраціве, бандытызме, не зважаючы увагу на тое, што тут была і Армія Краёва, і атрады ўкраінскага супраціву...

Мы правялі ўстаноўчы сход Гільдыі беларускіх гісторыкаў і зараз рыхтуем дакументы для рэгістрацыі арганізацыі. У нас не такія моцныя сілы, каб стварыць Інстытут альтэрнатыўнай гісторыі, але лічым, што трэба рабіць тое, што можам. Гісторыя – адзін з кітоў, на якім трымаецца дзяржаўнасць. Гісторыя павінна стаць неад'емнай часткай нацыянальнай ідэі. І на ўсё, што адбываецца ў нас і вакол нас, мы павінны глядзець са сваёй нацыянальнай беларускай купінкі.

**Марына КОКТЫШ.**

ПАЙМЕННА

*У склад будучай Гільдыі беларускіх гісторыкаў увайшло нямала вядомых асоб: гісторыкі* ***Алесь Смалянчук, Ігар Кузняцоў, Валянціна Лебедзева, Вячаслаў Швед, Андрэй Кіштымаў, Анатоль Трафімчык,*** *краязнаўцы* ***Андрэй Цісецкі і Андрэй Аляхновіч,*** *археолагі* ***Людміла Дучыц, Валянціна Вяргей,*** *гандляр гістарычнай літаратурай* ***Раман Цымбераў*** *і іншыя. Старшынёй ствараемай Гільдыі абралі* ***Ніну Стужынскую.***

АБИТУРИЕНТ-2015

## В Педуниверситете все бюджетные места заняты

В Белорусском государственном педуниверситете в этом году спрос и конкурс на учительские специальности вырос. БГПУ в отличие от других вузов не проводил дополнительный набор, поскольку отсутствовали вакантные бюджетные места.

Этим летом в БГПУ было подано на 30% больше заявлений, чем в 2014 году. В 2014 году уже был конкурс в среднем 1,5 человека на место, документы подали 100 медалистов (в пять раз больше, чем в 2013-м). Сейчас медалистов пришло на треть больше – 132.

Самый высокий конкурс на дневную бюджетную форму обучения на специальности «Изобразительное искусство и компьютерная графика» почти 5,5 человека на место. На половине специальностей конкурс составил 2 человека на место. А на шести специальностях конкурс составил три человека и более. Это специальности «Белорусский язык и литература. Иностранный язык (английский)»; «Русский язык и литература. Иностранный язык (английский); Практическая психология»; «Социальная работа»; «Спортивно-педагогическая деятельность (спортивная режиссура)»; «Музыкальное искусство, ритмика и хореография».

ВЕРНІСАЖ

## Рушчыц далучыўся да Шагала

*"Белгазпрамбанк" набыў карціны трох выбітных айчынных мастакоў і пакажа іх на выставе ў Нацыянальным мастацкім музеі.*



Паўднёва-заходняя ўскраіна Парыжа. На плошчы ў 0,5 гектара размешчаны знакаміты "Вулей" – комплекс са 140 атэлье-студый, якія з пачатку XX стагоддзя за сімвалічную плату здаваліся пачынаючым мастакам і літаратарам (месячная арэнда каштавала як два недарагія абеды). Цяпер ля ўваходу ў "Вулей" вісіць таблічка. На ёй – словы ўдзячнасці творцам ад французскага грамадства. І чатыры прозвішчы – **Марка Шагала, Хаіма Суціна, Восіпа Цадкіна і Фернана Лежэ.** Першыя тры нарадзіліся ў Беларусі, апошні быў жанаты на нашай суайчынніцы **Надзі Хадасевіч-Лежэ**.

Доўгі час у Беларусі не мелася ніводнага значнага твора, што напісалі нашы суайчыннікі – прадстаўнікі знакамітай "Парыжскай школы", якія паходзілі з Беларусі. У 2011 годзе гэтая акалічнасць стала штуршком для стварэння карпаратыўнай калекцыі "Белгазпрамбанка". Як кажа **Алесь Сухадолаў**, вядучы спецыяліст аддзела арганізацыі і суправаджэння рэкламнай дзейнасці банка, "спачатку куплялі тое, што самім падабалася – Парыжскую школу. Пасля з'явіўся нацыянальны гісторыка-культурны праект "Арт-Беларусь", а карпаратыўная калекцыя стала пашырацца за кошт іншых выбітных беларускіх творцаў".

Днямі "Белгазпрамбанк" набыў ва ўласнасць карціны **Апалінарыя Гараўскага** "Замак" (1869), **Рыгора Баброўскага** "Улетку. Ветраны дзень" (1920–1930-я гады) і **Фердынанда Рушчыца** "Пейзаж. Вілія". Цікава, што дагэтуль у Беларусі захоўваліся толькі дзве працы Рушчыца. Адна з іх ("Пуня і азярод") была набыта банкам раней, другая ("Ля касцёла") знаходзіцца ў зборы Нацыянальнага мастацкага музея.

Творы Гараўскага, Баброўскага і Рушчыца банк набыў у прыватнага калекцыянера з Беларусі. Раней яны знаходзіліся ў прыватных расійскіх зборах. Пытаюся ў Алеся Сухадолава, колькі часу ідзе "паляванне" за пэўным творам? Тыдзень? Месяц? Год? *"Усё залежыць ад пэўнай карціны. Калі прапаноўваюць тое, што мы шукаем, што адпавядае канцэпцыі праекта "Арт-Беларусь", то перамовы ідуць даволі хутка. "Палююць" за творамі збольшага тыя, хто робіць нам прапановы"*. Але пытанне пра кошт пакупак Сухадолаў дыпламатычна абыходзіць: *"Кошты твораў гэтых аўтараў адпавядаюць той сярэдняй ацэнцы, якая даецца іх творам на аўкцыёнах, экспертамі, галерэямі. Мы ўзгадняем іх з прыкладамі папярэдніх продажаў гэтых аўтараў"*.

Нагадаем, што самай дарагой пакупкай банка стала карціна **Хаіма Суціна** "Ева" – у 2013 годзе яе набылі на аўкцыёне "Сотбіс" за 1,8 мільёна долараў. Дзе можна будзе ўбачыць набытыя творы? Як кажа Алесь Сухадолаў, у 2016 годзе банкам плануецца вялікі праект, прысвечаны 150-годдзю з дня нараджэння мастака **Леона Бакста**, што нарадзіўся ў Гродне. Пасля нязначнай рэстаўрацыі некаторыя з апошніх набыткаў будуць прадстаўлены там.

**Максім ПЛОТНІКАЎ.**

ДЭГУСТАЦЫЯ

# Ён гарыць і пахне хлебам...

***На фоне бязлітаснай барацьбы дзяржавы з самагонаварэннем Слонімскі вінаробны завод выйшаў на рынак з новай прадукцыяй. Завод першым у краіне атрымаў дазвол на выраб самагону ў прамысловых маштабах.***



Напой, які нядаўна быў прэзентаваны ў Мінску, называецца «Першач`ок ад дзеда" і мае моцнасць 42%. Смакам і пахам слонімскі прадукт – не гарэлка і не настойка – самагон самагонам. Праверыць гэта давялося ўласнаручна. Па-першае, напой як класічны беларускі самагон пры падпале гарыць прыгожым сінім полымем, а па-другое, калі вадкасць расцерці па далоні, у нос б'е прыемны хлебны водар.

Але называць слонімскую навінку самагонам афіцыйна забаронена. Чыноўнікі, якія спачатку ўсё праверылі і ўзгаднілі, у апошні момант спахапіліся. Дырэктар слонімскага вінаробнага завода **Міхаіл Акулік** расказвае:

*«Мы звярнуліся ў Дзяржстандарт краіны на прадмет практычнай рэалізацыі ідэі вырабу напою на аснове зерневых дыстылятаў, працсей кажучы, напою, крэпасць якога была б больш за 40%. Паўгода ішлі перамовы з Дзяржстандартам і канцэрнам «Белхарчпрам». У выніку дазвол быў атрыманы. Потым мы доўга эксперыментавалі ў лабараторыях, спрабавалі нават зрабіць гэты прадукт на дзеючым спіртзаводзе, але не атрымалася. Уклалі 5 мільярдаў рублёў у падрыхтоўку вытворчасці і пачалі ўжо выпрацоўваць напой, як у інтэрнэце з'явілася інфармацыя, што ў Слоніме на заводзе гоняць самагон. Адразу ж мне патэлефанавалі з Дзяржстандарту і папярэдзілі: у вас няма ліцэнзіі на выган самагону, у вас ёсць ліцэнзія на зерневы дыстылят.*

*Ну і ў людзей узнікла пытанне: чаму заводу дазволілі вырабляць «пяршак», а людзям забараняюць. Адкажу проста. Людзі, якія самастойна вырабляюць падобныя напоі, не сплачваюць падатак у казну краіны, іх прадукцыя, так бы мовіць, безакцызная. А ў выпадку заводскай вытворчасці мы сплачваем усе падаткі. Толькі ў мінулым месяцы заплацілі падаткаў на 23 мільярды рублёў».*

Не дзіўна, што і самагонны апарат, які стаіць на заводзе ў Слоніме, так называць нельга. На вытворчасці стаіць дыстылятар. Такія апараты нідзе ў свеце не вырабляюцца серыйна.

*«Гэты прыбор цалкам медны,* – кажа дырэктар завода. – *Яго выраблялі па нашым спецзаказе ў Мінску. Адмыслоўцы ведаюць, для таго, каб атрымаць сапраўды якасны прадукт, прыбор для перагону прадукту павінен складацца з гэтага металу».*

Прыстасаванне можа пераганяць да 35 літраў «першака» ў суткі.

Квота, якую дзяржава выдзеліла Слонімскаму вінаробнаму заводу, складае 300.000 літраў у год. Гэта ўсяго 3% ад агульнага аб'ёму вытворчасці на прадпрыемстве. Праўда, кіраўніцтва завода не губляе надзеі павялічыць гэтую квоту ўжо ў наступным годзе.

*«Мы разумеем, што наш новы напой не будзе мець серыйную вытворчасць,* – гаворыць Міхаіл Акулік. – *Гэта хутчэй напой прэміум-класа. Яго рэалізацыя распачалася ў гандлёвых кропках Гродзенскай вобласці, заключана дамова з крамамі сеткі «Дзюці фры». А вось мінскія гандляры пакуль не выходзяць з намі на сувязь, таму ў сталічных крамах «Першачка ад дзеда" пакуль няма».*

Цікавасць да новай прадукцыі слонімскай вытворчасці праявілі ва Украіне. Там «Першач'ок ад дзеда» ўжо рэалізуецца. Зараз кіраўніцтвам вядуцца перамовы з некаторымі еўрапейскімі краінамі на прадмет экспарту.

Лінейка напояў, па словах дырэктара прадпрыемства, будзе пашырацца. Неўзабаве на паліцах краіны з'явіцца яшчэ больш моцны напой ад слонімскіх вытворцаў, ён будзе называцца «Першач`ок ад дзеда. Люты» моцнасцю ў 47%.

Дарэчы, кошт адной паўлітровай бутэлькі «Першачка ад дзеда» складае прыкладна 76.000 рублёў, а вось літровая пляшка пацягне на 130.000. Дарэчы, бутэлькі, у якія разліваецца напой, не вырабляюць у Беларусі. На Слонімскі вінаробны завод іх прывозяць з Расіі.

...»Прадукт якасны, каштуйце, не пашкадуеце, ад яго галава не баліць», – запэўніваў Міхаіл Акулік на прэзентацыі.

Прызнаюся, пакаштаваў. І магу сказаць: дырэктар не схлусіў. Тым не менш «Народная Воля» разам са Слонімскім вінаробным заводам папярэджваюць: ужыванне алкаголю шкодзіць вашаму здароўю.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

МУДРЫЕ МЫСЛИ



*Иммануил Кант:*

**– Хитрость – образ мыслей очень ограниченных людей и очень отличается от ума, на который внешне походит.**

ПІСЬМЕННІЦКІЯ ПОКАЗКІ

*Уладзімір СІЎЧЫКАЎ*

## Пакаранне

Аднаго вераснёўскага дня ў сярэдзіне васьмідзясятых гадоў Сцяпан Хусейнавіч Александровіч замест адной са сваіх лекцый адвёў тагачасных першакурснікаў, студэнтаў-беларусістаў на вуліцу Даўгабродскую і з гадзіну расказваў пра літаратараў, пахаваных на сталічных Вайсковых могілках.

Тым самым часам на кінаэкранах з аншлагам ішоў фільм Тэнгіза Абуладзе "Пакаянне", які шакіраваў гледачоў адной з сюжэтных ліній. Паводле яе, дачка рэпрэсіраванага ў канцы 1930-х гадоў грузінскага мастака выкопвала нябожчыка Катэ Аравідзэ, былога мэра горада і фактычнага ката не толькі яе бацькі, а і соцень гараджан, бо той, на яе думку, не меў права ляжаць у роднай зямлі.

А перад юбілейнай паэтычнай вечарынаю Генадзя Бураўкіна ў Палацы мастацтва дазналіся калегі ад Уладзіміра Содаля, што і ў нас, нібыта рахманых, ціхмяных і талерантных беларусаў, папраўдзе быў аналагічны выпадак.

Дачка літаратара Эдуарда С. прызнавалася, што ў лютым 1939 года, раніцай пасля пахавання бацькава магіла на Вайсковых могілках (у цэнтры Мінска) аказалася раскапанаю, труна раструшчанаю, а сам нябожчык – павешаным на дрэве па-над магілаю!!!

Каму ж так не дагадзіў пры жыцці аўтар зборніка прозы "Дачка эскадрона" і рамана "Будучыня", у якім паказана жыццё грузінскага народа, хто не даў яму спакойна спачываць у роднае зямлі, за што так жахліва папомсціўся?!

*30 лістапада 2006 года.*

## Прыкрасць

Мабыць, кожны памятае яшчэ ад школьнае лавы, як рагаталі аднакласнікі, калі новы настаўнік знаёміўся па класным журнале з вучнямі і няправільна прачытваў прозвішчы, рабіў памылкі ў націсках.

Але зусім не смешна было чытаць адну з а'яваў новага праўлення садовага таварыства "Узгор'е-2", у якой фігуравалі і прозвішчы "лысагорцаў". Прыкра і роспачна было пры прынтарнай раздрукоўцы на вартоўні, что часам служыць за прытулак і праўленцам.

Клышку перайменавалі яны ў Кмышку, Барадуліна – у Барадуліка, Законнікава – у Заньнікава, а Ніну Загорскую "пашкадавалі" – адно толькі не пазначылі ініцыялы...

*19 жніўня 2007 года.*

## Герб

Хлопчык-гарэза сядзеў на лаве аўтобуснага прыпынка "Малая Валоўшчына" поруч з бабуляй, гартаў дзіцячую энцыклапедыю і раз-пораз даймаў яе сваімі пытаннямі.

Аднаго з іх бабуля аніяк не магла ўспомніць, а праз тое і адказаць.

– Ну, што, бабуля, значыць, гэты знак з тваіх часоў, з тваёй маладосці?

– Які такі знак?

– Ну вось гэты. Бачыш, намаляваны малаток з бананам!

Тут увесь прыпынак грымнуў рогатам.

Аказалася, што пытаўся малы пра савецкі герб (*ад ням.* Erbe – спадчына.) – серп з молатам.

Дзіва што! Малаток – рэч зразумелая, а вось дзе было малому гараджаніну пабачыць серп?! А вось банан – рэалія штодзённая, асабліва калі ўзяць пад увагу сёлетняе субтрапічнае, са спякотаю і ледзь не штодзённымі залевамі, беларускае лета. Банан можна ўбачыць у продажы і на вуліцы, і на базары, у супермаркеце і практычна ў кожнай прадуктовай краме.

*29 ліпеня 2009 года.*

## De gustibus non disputandum est
### (пра густы не спрачаюцца)

На ўрачыстым прыёме ў гатэлі "Crowne Plaza", які чэшскае пасольства давала з нагоды Дня чэшскай дзяржаўнасці, амбасадар Баліварыянскай Рэспублікі Венесуэла ганарліва хадзіў пад ручку з пераможцай Міжнароднага конкурсу прыгажосці "Міс Інтэркантыненталь-2009", сваёй суайчынніцай Анэлі Кінтэра і з задавальненнем прадстаўляў яе гасцям.

Дваццацітрохгадовая прыгажуня, мадэлька і тэлевядучая, ахвотна дарыла ўсмешкі прысутным – прымалі яе ў Мінску шыкоўна. Напярэдадні пабывала яна ў Дудутках, пасмакавала страў беларускай кухні, а на футбольным манежы ў яе гонар было наладжана вечаровае шоу з феерверкам.

Калі пакінулі яе ў кампаніі жонак дыпламатаў, амбасадар Літвы Эдмінас Багдонас заявіў свайму суразмоўцу:

– Як украініст паводле адукацыі, скажу вам, калега, што асабіста мне дык вунь тая ўкраінка-брунетка, якая стаіць поруч з венесуэлкай, куды больш падабаецца!

– Я ведаю, што ў нашага венгерскага і ў нашага палесцінскага калег жонкі ўкраінкі. Але чаму вы так упэўнена сцвярджаеце, што і тая смуглянка – украінка? – спытаўся заінтрыгаваны амбасадар Украіны Дзмітры Ліхавы. – І чаму яна падабаецца вам больш, чым сённяшняя "Міс Інтэркантыненталь"?

– Ды хаця б таму, што яна – мая жонка!!! Хадземце, я вас зараз пазнаёмлю!

Сітуацыя нагадвала знакамітую сцэну, калі самы папулярны герой Артура Конан Дойла, дэтэктыў Шэрлак Холмс дабрадушна пацвельваў свайго сябра і біёграфа доктара Уотсана. Глядзеў ён нібыта на незнаёмага праходжага праз акно кватэры місіс Хадсан і расказваў пра таго неверагодныя падрабязнасці.

А потым прызнаўся небараку, што пераказваў дэталі біяграфіі, апісваў... свайго роднага брата Майкрафта Холмса!

*24 верасня 2009 года.*



ИЗ-ПОД ПЕРА

***Сообщаем, можно сказать, по секрету: наш давнишний автор, известнейший публицист Семен БУКЧИН заканчивает работу над мемуарно-публицистическим циклом "Записки побежденного", который намереваемся опубликовать на протяжении сентября-октября. Публикуем один из фрагментов цикла и поздравляем Семена Владимировича с очередным днем рождения – сегодня ему исполняется 74 года.***

**Редакция.**



ДАЛЕКОЕ–БЛИЗКОЕ

*Семен БУКЧИН*

# «Защитные» времена
## Из «Записок побежденного»

Где-то в начале 1970-х я зашел в ЦК ЛКСМБ, там на втором, кажется, этаже помещалась редакция журнала "Маладосць", где я печатался иногда благодаря привечавшей меня Вере Семеновне Полторан. Был невероятно жаркий день, а по коридорам сновали озабоченные молодые люди в строгих черных костюмах, в белых рубашках с галстуками и черных начищенных туфлях. Я остановил одного знакомого комсомольского аппаратчика: "Зачем же в такую жарищу париться в черных костюмах?" "Так у нас положено", – строго ответил он и побежал дальше. Оказывается, это была обязательная униформа.

И еще люди из этой среды обменивались при встрече специфической информацией: "Слышал, такой-то уже защитился? А ты защитился?" Защита кандидатской диссертации была у них чем-то обязательным. Ученая степень была запасным аэродромом, куда можно было приземлиться на неплохую доцентскую зарплату, если не задавалась карьера в партийных органах или комсомольских. И вот они писали свои "труды". Я помню названия статей, которые они приносили в редакцию журнала "Весці АН БССР" (я работал там ответственным секретарем), чтобы иметь публикации перед защитой: «Роль областных парторганизаций в деле химизации сельского хозяйства», «Методы укрепления моральной базы советской молодежи» и прочую чушь. И как быстро они, эти «чернокостюмные», бросились создавать кооперативы и частные банки, когда Горбачев разрешил. От одного я услышал: «Куй, пока Горбачев!». Они мели под себя все государственное, что только было можно. Разумеется, при благословении «старших товарищей».

Но это позже. А пока и я готовился, как соискатель, к защите диссертации по Власу Дорошевичу, который во всех советских энциклопедиях был обозначен как «буржуазный писатель и журналист». А про защитников буржуазии у нас диссертации не полагались. Я же написал работу, в которой Дорошевич представал фигурой демократической. Разумеется, я расставил, где положено, цитаты из Маркса, Энгельса, Ленина. Разумеется, я осудил стремление Дорошевича оценивать происходившее в России в 1917 г. с позиций «здравого смысла», то есть стоя над схваткой. И, как уже отметил выше, утаил его антиленинский памфлет «Стенько-Разинщина».

Но все равно – защищаться «по Дорошевичу» в начале 1970-х было более чем ненадежным предприятием. Тем более что за мной никто не стоял, я не заканчивал аспирантуру, не имел научного руководителя. Написал работу, сдал кандидатский минимум и захотел представить ее к защите. Совсем, можно сказать, голый соискатель. Сочувственно относившийся ко мне ученый секретарь академического совета по защитам, ныне известный лингвист Геннадий Афанасьевич Цыхун сказал мне: «Все-таки нужно поставить на автореферате имя какого-то руководителя». Я и пошел к профессору Федору Ивановичу Кулешову, возглавлявшему кафедру русской литературы в БГУ. Федор Иванович был человек непростой, колючий. Тогда я еще не знал, что довелось ему пережить в молодые годы. Но выступление его на факультетском собрании в январе 1962 года, на котором он язвительно обличал студентов, входивших в «антисоветскую» группу Кима Хадеева, запомнил.

Федор Иванович охотно согласился прочитать мою работу, тем более что это была его эпоха – он недавно защитил докторскую по Куприну и считался крупнейшим в стране знатоком жизни и творчества этого писателя. После знакомства с моим научным опусом он наговорил мне кучу приятностей и даже удивился, как это я сам без всякого руководства написал вполне готовую к защите работу. Дело оставалось вроде бы за малым: дав согласие на указание его имени как руководителя, Федор Иванович должен был написать соответствующий отзыв. Шли недели, а Федор Иванович все тянул и тянул с этим делом. Я недоумевал, пока моя покойная теща Виктория Прокофьевна, прошедшая всю войну до Берлина фронтовой медсестрой, решительно не сказала: «Ему надо дать!»

Кому, за что? И как это сочетается – русская классическая литература, Куприн, автор «Листригонов» и «Юнкеров», и – «дать»? Тем не менее я узнал, что за год официального руководства аспирантом профессор тогда получал 120 рублей. И хотя Федор Иванович ни дня не был моим руководителем и мы с ним не обсуждали каждую главу моей работы, я не исправлял ее, согласно его замечаниям, я отправился на квартиру профессора, чтобы «дать». Было ли это взяткой? Вроде нет. Получалось, что я плачу профессору Кулешову за его имя и подписанный им отзыв. Тоже, наверное, чего-то стоит? Конверт с деньгами жег мне карман, я испытывал сложное чувство – смесь стыда и неловкости.

Когда я дрожащими руками извлек конверт, Федор Иванович небрежно сказал: «Это не ко мне, это вот Ольга Филипповна...» И оказавшаяся тут же рядом дородная профессорская жена как-то очень ловко забрала у меня конверт, а Федор Иванович тут же извлек уже отпечатанный и заверенный отзыв.

Это было нелегким испытанием моей веры в возвышающую миссию русской классики. Через некоторое время Федора Ивановича сняли с поста заведующего кафедрой за какую-то махинацию с приобретением шубы для жены. На его место поставили Павла Ткачева, хорошо знакомого мне бывшего сотрудника пионерской газеты «Зорька» (я начал там печататься в 1959 году), автора рассказов о Ленине. Под руководством Кулешова Ткачев защитил кандидатскую диссертацию по советскому западно-украинскому публицисту Ярославу Галану, убитому бандеровцами в 1949 году во Львове. Какое отношение специалист по Куприну мог иметь к творчеству Галана – это вопрос из области порядков, царивших тогда в научном мире.

Когда Ткачев выпустил претенциозную и местами тянувшую на пародию книгу по жанровым проблемам публицистики, я опубликовал на нее язвительную рецензию в «Литературной газете». В белорусском литературном мире в те годы это было событием. Студенты вывесили рецензию на факультетской доске объявлений, ее срывали, но она появлялась снова. Федор Иванович торжествовал: был посрамлен недостойный человек, занявший его место на кафедре. В честь этого события я с женой был приглашен на профессорскую квартиру (она находилась в доме, в котором кинотеатр «Центральный»), где Ольга Филипповна накрыла роскошный стол.

Новое и существенное я узнал о Кулешове многие годы спустя. А началось с того, что в деревне Федоровка Рогачевского района, куда я приехал, кажется, в 1971 году для сбора сведений о фольклористке Елизавете Павловской и ее сыне, писателе В.Л.Кигне-Дедлове, ко мне обратился довольно древний, но крепкий старик с вопросом, знаю ли я живущего в Минске «прахфесара» Кулешова. Старик оказался его двоюродным братом, но не виделись братья давно, еще с довоенных времен. Удивительная была реакция Федора Ивановича на это мое сообщение о его родственнике: он промолчал, дав понять, что не желает развивать эту тему.

В начале 1990-х я несколько раз приходил к нему в дом-«доллар» на улице Кульман, где он жил вместе с семьей дочери. Умерла к тому времени Ольга Филипповна, отдавшая последние силы вытаскиванию мужа из инсульта. Но осталась афазия, он забывал слова и жутко злился, когда не мог подобрать нужное выражение, из-за чего собеседник не всегда понимал его. Жестокость судьбы была в том, что былого дара речи лишился великолепный лектор и жесткий остроумец. Вот тогда он мне рассказал, как остался сиротой после раскулачивания отца, как мальчиком попал в детский дом. Это была повесть о белорусском хлопчике, невероятным усилием воли преодолевшем сложнейшие препятствия, сумевшем закончить Ленинградский пединститут имени Герцена (1935 г) и специально уехавшем работать школьным учителем далеко на Север. Но и там его настигла карающая неизвестно за что рука «органов». Будущий куприновед был осужден и попал в лагерь. Выпустили его в середине войны, после чего он в качестве преподавателя скитался по областным пединститутам, пока не очутился на Сахалине. Там, работая в Южно-Сахалинском пединституте, стал заниматься Куприным. В начале 1950-х приехал в Минск и стал работать в БГУ. Тень «лагерного провала» в его жизни преследовала долгие годы. Он боялся этой тени и скрывал ее. Вот почему, как мне представляется, он, всего два года назад защитивший докторскую (1964), и, безусловно, мечтавший о профессуре, посчитал нужным заявить о своей преданности советской власти через осуждение своих же студентов на том самом факультетском собрании, где обсуждалось заведенное КГБ дело «группы Хадеева».

Федор Иванович Кулешов умер в 1993 году. Не знаю, что сталось с его поразительной библиотекой, в которой было множество редких, дореволюционных, а также (что удивительно для отсидевшего человека) эмигрантских изданий.

Но вернусь к своей собственной диссертационной защите. Помимо научного руководителя, нужен был еще один доктор наук как первый оппонент, и сама работа должна была быть рассмотрена и одобрена желательно в солидном академическом институте или вузе. Тут сработала цепочка: очень любившая моего московского друга Юру Гаврилова его школьная учительница литературы Татьяна Михайловна, продолжавшая дружить со своим учеником и годы спустя после окончания им школы, попросила своего мужа профессора МГУ, заведующего кафедрой западноевропейских литератур Леонида Григорьевича Андреева, а тот попросил декана факультета журналистики, известного американиста Ясена Николаевича Засурского. Солидный, седовласый Засурский не вел со мной долгих разговоров, он тут же вызвал заведующего кафедрой истории русской журналистики Бориса Ивановича Есина и сказал ему: «Вот молодой человек из Минска... Кажется, написал интересную работу. Нельзя ли помочь ему?» Худенький Борис Иванович отвел меня в свой крошечный кабинетик, выходивший единственным окном на Манежную площадь. Некоторое время он стоял ко мне спиной и барабанил пальцами по стеклу, потом повернулся и быстро сказал: «Значит, Дорошевич? Так вот, отзыв кафедры мы вам дадим и первого оппонента нормального дадим. Но защищаться вы у нас не будете!»

Да я и не собирался защищаться в Московском университете, имея договоренность о защите в объединенном совете институтов литературы и языка АН БССР. Но все-таки не мог не спросить: «Почему?» «А вот почему!» – с этими словами Борис Иванович ткнул пальцем в окно в сторону зубчатых стен Кремля. Жест был более чем красноречивый: они не хотели связываться с этим буржуазным журналистом Дорошевичем. Мало ли чего «пришьют» идеологические органы? Надо революционных демократов и большевистских публицистов изучать, а не заниматься пропагандой буржуазного «короля фельетонистов».

Риски были действительно немалые. Когда я, разглядывая в фойе главного корпуса нашей Академии объявление о своей защите, заметил, что оно висит косо, стоявший рядом заведующий сектором теории литературы Института литературы имени Янки Купалы мудрейший Наум Соломонович Перкин сказал: «Смотрите, чтобы защита косо не вышла». Об этом же, но по-своему мне напомнил и приехавший из Москвы первый оппонент, профессор МГУ, добрейший и умнейший Владислав Антонович Ковалев, исследователь творчества Льва Толстого. Когда мы шли от вокзала к гостинице «Минск», он, неожиданно спросил: «У вас в совете много дубов?» Я смутился, не зная, что ответить. Он пояснил: «Ваша пятая графа и Дорошевич – это не очень хорошее сочетание. Вы не член партии, которому можно доверить разбор творчества буржуазного журналиста. Это, во-первых. Во-вторых, в провинции не любят таких залетных штучек, как я. Приехал тут профессор из Москвы учить нас... Поэтому прошу не удивляться тем штукам, которые я буду проделывать во время своего выступления. И не обижаться на меня. Надо ведь как-то расположить ваших дубов».

Что проделывал Владислав Антонович во время своего выступления, это трудно передать. Вполне традиционные научные обороты он мешал с остротами и почти анекдотами. Деревянные лица членов совета стали расплываться в подобие улыбок. А закончил мой первый оппонент вконец уничтожавшим меня перифразом из Чехова: «Вот Чехов говорил, что в литературе, как в жизни, всякие собаки нужны, и большие и маленькие. Большие лают громко, а маленькие бегают и просто тявкают. Так пусть же и Букчин бегает и тявкает свое».

Но даже этот эстрадный номер не мог отменить трех черных шаров, хотя они и не оказались решающими. «Слушай, – сказал мне знакомый сотрудник академии, – а ведь Ковалев оскорбил тебя, сравнил с собачкой». Он не понимал той победы, которую одержали Дорошевич, я и Ковалев. А победа между тем висела на волоске еще и по той причине, что за полчаса до начала защиты мой второй оппонент, доцент той же кафедры русской литературы БГУ, которой заведовал профессор Кулешов, Александр Сергеевич Малинин, бледный и трясущийся, заявил мне, что намерен в своем выступлении отказаться от той характеристики Дорошевича, как писателя-демократа, которую он написал в своем официальном отзыве, и будет говорить о нем как защитнике буржуазных идеалов. «Я не могу рисковать своей карьерой». И тут начался криминал. Я затолкал этого специалиста по Луначарскому в туалет, прижал его к кафельной стене и очень убедительно сказал: «Александр Сергеевич, вы скажете то, что написано в вашем отзыве. Ничего с вами не случится».

Доцент Малинин так и сделал, и ничего с ним действительно не случилось.

Когда я высказывал жене сожаления по поводу того, что не остался в Москве после службы в армии, она резонно замечала: «Но там бы ты не сумел, как в Минске, пользуясь здешней темнотой и провинциальностью, протащить Дорошевича в журналисты-демократы. Там идеологические ушки на макушке крепко стояли. Помнишь, что тебе сказал Есин?»

Но и провинция не дремала. Когда в 1975 году в белорусском академическом издательстве вышла моя монография о Дорошевиче, газета «Літаратура і мастацтва" разразилась разгромной рецензией под названием "Чья трагедия?". Ее автор, пройдошистый старик из Москвы Владимир Константинович Покровский, называвший себя биобиблиографом, укравший еще до войны богатейший архив Дорошевича у его жены, актрисы Ольги Николаевны Миткевич и затем распродававший его, был разозлен тем, что я мало упомянул о его заслугах как "первого дорошевичеведа". Вот и прислал исполненный вполне в советско-идеологическом духе вульгарный пасквиль, суть которого заключалась в том, что книга не столько показывает трагическую судьбу талантливейшего русского журналиста, сломанную большевистским переворотом, сколько отражает идейную незрелость автора монографии, а, может быть, и заранее спланированную идеологическую авантюру – протащить под видом писателя-демократа защитника интересов буржуазии.

Казалось бы, какое дело белорусской писательской газете до монографии по истории русской журналистики XIX–XX веков? Мало проблем у современной белорусской литературы? Но нужно было и «ЛІМу» демонстрировать свою идеологическую бдительность и правоверность.

И разгорелся скандал. Ну как же, академическое издательство выпустило идейно неправильную книгу! Делом заинтересовались в ЦК Компартии Белоруссии. Директор издательства добрейший Фаддей Игнатьевич Савицкий потребовал, чтобы я написал объяснительную записку в ЦК КПБ. Представляете, что было первейшей заботой высших парторганов? Не экономика, не социальные проблемы общества, а «правильное освещение» фигуры русского дореволюционного журналиста. Дело пригасло, когда в «Неделе», популярнейшем приложении к «Известиям», появилась восторженная рецензия на мою книгу московского писателя Анатолия Макарова. Что такое был «ЛІМ» по сравнению с органом Верховного Совета СССР? Но наши идейные ревнители не успокоились, и спустя некоторое время сотрудник отдела пропаганды и агитации ЦК КПБ Кононов самолично повез в Москву аж пять экземпляров моей книги для сбора отзывов. Решающей оказалась рецензия, подготовленная на кафедре истории русской литературы и журналистики МГУ. Она была осторожной, но в целом признавала монографию «полезным вкладом в историю русской прессы». Эту историю с книгой я намного более подробно изложил в своей монографии «Влас Дорошевич. Судьба фельетониста» (М., Аграф, 2010).

РЭГІЁН

## У Полацку з'явіцца школа акцёрскага майстэрства

Яна будзе працаваць пры заслужаным аматарскім тэатры "Пілігрым". Навучаць акцёрскаму майстэрству пачнуць з 14 гадоў, набор будзе ажыццяўляцца на конкурснай аснове.

– *Будуць лекцыі па творчым майстэрстве, па сцэнічнай мове, па вакале,* – распавяла "Народнай Волі" рэжысёр тэатра «Пілігрым» **Вера Кісялёва.** – *На гэтых занятках будзе рыхтавацца маладая трупа тэатра.*

Набор у школу акцёрскага майстэрства распачнецца 1 верасня. Па словах Веры Кісялёвай, галоўная задача – знайсці таленавітых хлопцаў і дзяўчат, і дапамагчы ім у творчай рэалізацыі. Шукаць таленты педагогі тэатра "Пілігрым" будуць у навучальных установах Полацка і Наваполацка.

Дарэчы, у гэтым годзе адзін з акцёраў аматарскага тэатра паступіў у Расійскі ўніверсітэт тэатральнага мастацтва (знакаміты ГИТИС).

## Заходняя Дзвіна ў Віцебску адкрывае падводныя камяні

*Узровень вады ў раёне горада ўстойліва паніжаецца, пры гэтым агаляюцца ўчасткі рэчышча, якія раней заўсёды знаходзіліся пад вадой.*

Пра гэта карэспандэнту «Народнай Волі» паведамілі ў групе гідралогіі Віцебскага абласнога цэнтра па гідраметэаралогіі і маніторынгу навакольнага прыроднага асяроддзя.

Па словах спецыялістаў, мінулым летам і ў ліпені гэтага года за ўвесь перыяд назірання быў устаноўлены абсалютны гістарычны мінімум – узровень вады ў рацэ ўпаў на 4 см ніжэй за нулявую адзнаку.

1 чэрвеня 2015 года ў Віцебску ўзровень дасягнуў адзнакі – 71 см над нулём паста, а па стане на 12 жніўня ён панізіўся да нулявой адзнакі. На думку спецыялістаў, калі гарачае надвор'е захаваецца, не выключаны паўтор ці нават абнаўленне гістарычнага мінімуму.

Сітуацыя, якая склалася, можа негатыўна адбіцца на водна-гаспадарчай дзейнасці горада, якая прывядзе да абмежавання суднаходства па Заходняй Дзвіне ў межах Віцебска. Таксама нізкі ўзровень вады ў рацэ будзе спрыяць яе забруджванню.

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Хірурга вызвалілі ад крымінальнай адказнасці



У ліпені мінулага года 11-гадоваму Стасу Мушаценку з аграгарадка Якубава Дубровенскага раёна Віцебской вобласці ампутавалі руку. Следства прыйшло да высновы, што вінаваты ў гэтым хірург раённай бальніцы, да якога Стас звярнуўся за дапамогай. Была ўзбуджана крымінальная справа. Хірург Юрый Кірычэнка разаслаў тады адкрыты ліст ва ўсе СМІ Беларусі, дзе сцвярджаў, што не ён адзін вінаваты ў фатальнай памылцы, такі быў збег абставін.

І вось прыйшла навіна, што крымінальная справа хірурга Дубровенскай бальніцы, што займаўся хлопцам, якому ампутавалі руку, спынена. «Справа спынена, абвінавачаны вызвалены ад крымінальнай адказнасці. Аднак у яго дзеяннях прызнана наяўнасць складу злачынства па ч.1 ст.162 КК (неналежныя выкананні прафесійных абавязкаў медыцынскім работнікам, што пацягнула прычыненне пацыенту па неасцярожнасці цяжкага цялеснага пашкоджання).

У сувязі з чым пацярпелы бок мае права патрабаваць матэрыяльнай кампенсацыі за непрафесіяналізм, а таксама кампенсацыі маральнай шкоды», – патлумачыла пракурор Віцебскай вобласці.

ДАРЭЧЫ

### Пратэзы трэба мяняць штогод

Нядаўна журналісты наведалі Стаса дома ў вёсцы Якубава. Жыве хлопец разам з бацькамі і старэйшымі братамі. Замест рукі ў хлопца кульця. Стас кажа, што прызвычаіўся.

Хлопец – інвалід 2-й групы, атрымлівае пенсію 1 мільён 300 тысяч.

У снежні мінулага года ў Стаса з'явіўся першы пратэз. Яго зрабілі бясплатна. Часцей за ўсё ён яго насіў дома, прывыкаў. Другі пратэз, таксама бясплатны, плануюць забраць да канца гэтага года. Спецыялісты абяцаюць, што пальцы на пратэзе будуць варушыцца. Па словах маці, пратэзы трэба мяняць кожны год, пакуль Стасу не споўніцца 20 гадоў.

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ



## Два бакі медаля

*На чэмпіянаце свету па водных відах спорту беларускія плыўцы не заваявалі ніводнага медаля. Хтосьці спартсменаў крытыкаваў, а нехта падтрымаў.*

Аляксандр Лукашэнка, напрыклад, застаўся незадаволены вынікамі беларускіх плыўцоў.

*"Узялі і загубілі плаванне,* – заявіў ён падчас сустрэчы з прадстаўнікамі незалежных СМІ. – *Ідзе чэмпіянат свету, дык няма ж на каго глядзець... Ну і дзе цяпер Герасіменя?.. Ну і дзе Цуркін? Які ён малады? Яму ўжо недзе 23 гады, па-мойму. Маладыя ўсе там, на чэмпіянаце свету золата выйграюць – у 18-гадовым узросце".*

А вось так вырашыла падтрымаць плыўцоў словам на сваёй старонцы ў Facebook алімпійская чэмпіёнка **Юлія Несцярэнка.**

*"У нас, як звычайна, як заўсёды,* – напісала яна. – *Сёння ты – герой, а заўтра... Вельмі не люблю гэтага. Чаму нельга проста паважаць, цаніць і берагчы сваіх спартсменаў і трэнераў хаця б за тое, што тыя любяць сваю справу? За тое, што падрываюць жылы і здароўе... Хаця б за тое, што ў паўфінале чэмпіянату свету скажуць слова "Беларусь". Яшчэ людзі дадому не вярнуліся, а ўжо прысуд... Як заўсёды – з крайнасці ў крайнасць. То табе ўсю душу вывернуць пасля поспеху, то пасля аблаюць і забудуцца. Я прайшла ўжо ўсё гэта. Заўсёды глядзела на вядомых спартсменаў з іншых краін пасля іх няўдалага выступлення. Вядуць сябе свабодна, усмешка, жыццё працягваецца, гэта спорт... А нашы бедныя дадому вяртаюцца, як на расстрэл. Брудам абдадуць, усё забяруць, усяго пазбавяць і г.д. Так і вымушаны недалечаныя бягом ізноў за рэкордамі. Таму што заўтра пра цябе забудуцца..."*

Нагадаем, што на гэтым чэмпіянаце свету, які прайшоў у Казані, у скарбонцы зборнай Беларусі адзін бронзавы медаль, які заваявала **Яна Несцерава** ў хайдайвінгу.

*"Не самы паспяховы чэмпіянат для нашай зборнай,* – сказала пасля першынства шматгадовы лідар каманды **Аляксандра Герасіменя** (на фота). – *А дакладней – правальны. Але гэта не апошняе наша слова. Зробім работу над памылкамі і пойдзем далей... Тое, што нас не забівае, робіць нас мацнейшымі!"*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

